Pierasyłka apłačana „ryčałtam“.

Цана асобнага нумару 15 гр.

№ 4 (24). Вільня, аўторак 20 жніўня 1929 г. Год III.

РЭДАКЦЫЯ й АДМІНІСТРАЦЫЯ:
Вільня, Новы Сьвет, Тургельская 22 кв. 3.
ПАДПІСКА: на год . . . . 3 зал.
„ паўгоду . . 1 50 гр.
на 3 месяцы . . 75 гр.
Заграніцу ўдвая даражэй.

# НАРОД

ЦАНА АБЕСТАК паводле ўмовы з адміністрацыяй.

ВОРГАН БЕЛАРУСКАЕ СЯЛЯНСКАЕ ПАРТЫІ.

Выходзе 2 разы у месяц.

## БЕЛАРУСКІ РУХ І БАЛЬШАВІКІ.

Мы неадноўчы пісалі, што бальшавікі ці інакш камуністыя ё непрыяцельмі адраджэньня беларускага народу. Непрыязьнь гэтая вынікае ў іх із дзьвюх працілежных прычынаў—з інтэрнацыяналізму і маскоўскага нацыяналізму. Інтэрнацыяналізм ё прычынаю таго, што камуністыя грэбуюць вялікім нацыянальным багацьцям душэўным, што цэлы народ часта разглядаюць як аружжа, дзеля дапяцьця сваіх інтэрнацыяналістычных мэтаў. Але калі-б толькі быў інтэрнацыяналізм, дык яшчэ было-б паў бяды, тады адносіны да ўсіх народаў былі б аднолькава грэбліва-нэўтральныя, былі-б прыкладам, такія самыя да Беларуса як і да Маскаля. Справа ў тым, што ў цяперашнім СССР (Зьвязе Радавых Социялістычных Рэспублікаў) за інтэрнацыяналізм, за бальшавізм ці камунізм заўсёды, за малымі вывяткамі, хаваецца маскоўскі шавінізм, робячы ўжо інтэрнацыяналізм і камунізм сабе аружжам. Гэта так відавочна, што, здавалася б ня трэба яго доводзіць. Прыраўнуйце толькі палажэньне ў Радавай Беларускай Рэспубліцы, дзе так рупяцца, каб частка несьвядомых Беларусаў асталася й далей несьвядомаю, называючы яе Маскалямі або Палякамі, дзе гэтыя фікцыйныя нацыянальныя меншасьці ўрадова забясьпечаныя ўсім чыста, забясьпечаныя навет шмат балей за сьвядомую беларускую большасьць, прыраўнуйце гэта з палажэньням належачай беспасярэдне да Масквы ўсходняй часьці Беларусі, званай Заходняй Аканоміцкай Вобласьцяй, населенай Беларусамі, што чыста пазбаўлены сваіх нацыянальна-культурных правоў, і вам стане ясна панаваньне ў СССР маскоўскага нацыяналізму.

Як нягодны маскоўскі шавінізм у вадносінах да беларускага адраджэньня відаць такжа із „Зьвязды“, цэнтральнага воргану камуністычнай партыі Беларусі. „Зьвязда“ цяперака друкуецца пабеларуску, але беларуская вопратка не зьмяніла яе „ісьцінно-рускага“ характару. Асабліва тыповай у вадносінах маскоўскага камунізму да беларускага руху ёсьць перадавіца *„Аб правым водхіне ў КП (б) Б па нацыянальным пытаньні“* („Зьвязда“ № 169 з 27. VII. 1929 г.). Газэта імкнецца прадставіць беларускі рух капіталістычна-буржуазнай інтрыгай і кажа паміж іншым:

„У сілу гэтых прычынаў, выступленьні проці нацыянальнай палітыкі КП(б)Б, што былі за гэты пэрыёд у БССР, маюць значэньні правай спробы абараніць капіталістычныя элемэнты беларускага места й вёскі, што руйнуюцца нашым социялістычным наступленьням“.

У маскоўскім нацыяналізьме бальшавікі ня бачаць капіталістычна-буржуазнай інтрыгі, хоць у Маскалёў ёсьць свой вялікі капітал і буржуазыя, што вырасьлі на нацыянальным грунце і бяссумлеву ўзлучэньню з нацыяналізмам імкнуцца вярнуць сабе даўнейшае палажэньне. Затое яны стараюцца знайсьці гэтаю інтрыгу ў Беларусаў, у каторых няма ані капіталізму ані буржуазыі.

Але паслухайце ў чым праяўляецца гэная страшная „інтрыга“:

„У гэтым—чытаем далей у газэце—нас пераконуе і самая сутнасьць выступленьнеў проці нацыянальнай палітыкі КП(б)Б, што йдуць за апошні пэрыёд галоўна з боку беларускіх нацыяналістых. Гэтых выступленьнеў было шмат у ворганах пэрыядычнага друку (пераважна ў „Савецкай Беларусі“ й „Полымі“), у розных непэрыёдычных зборніках і г. д. Аўтарамі падобнага роду публічных выступленьнеў былі і некаторыя сябры КП(б)Б. Самыя выступленьні старанна маскаваліся: штодзенныя патрэбы дня разгляддаліся пад псэўдонімам, здавалася-б далёкіх ад сучаснасьці, пытаньнеў гісторыі, літаратуры, мастацтва і г. д.“.

Соладка-ж жывецца Беларусам у сваёй Бацькаўшчыне пад бальшавікамі, калі навет аб „штадзенных патрэбах“ яны ня сьмеюць сказаць адкрыта, але прымушаны аб іх наводзіць на думку чытара гутаркамі зь гісторыі і пад.; соладка жывецца тамака, калі навет „найвальнейшыя з вольных“ (пролетарыяту), Беларусы—сябры камун. партыі прымушаны гэтак праяўляць і хаваць адначасна свае пагляды не аб чымсь надзвычайным, але аб „штодзенных патрэбах“ свайго народу.

Беларусам забаронена ўспамінаць гісторыю свайго адраджэньня, калі толькі гэтым не праслаўляецца маскоўскі бальшавізм:

„І запраўды, навошта было патрэбна т. З. Жылуновічу („Полымя“ N 10 з 1928 г. і N 4 з 1929 г.) і ягоным аднадумцам, праз дваццаць год у 1929 г. ідэалізаваць і ўскрашаць „Залаты век“ „Нашае Нівы“ зь яе кулацка-буржуазнай праграмай патрымліваньня сталыпінскіх хутароў, зь яе прапаведзьдзю нацыянальна-буржуазнага адзінства. Дзеля чаго й для каго гэта патрэбна ў наш час?“...

„На чыю руку, каму патрэбна цяперака шкадаваць аб разгоне бальшавікамі кулацкага ўстаноўчага сходу („конгрэс“ 17 г.), аб яго „недагаласаваных рэзалюцыях?“.

Як ведама, Усебеларускі Конгрэс 1917 г. быў зусім не багатырскім („кулацкім“), але складаўся зь бедных беларускіх сялян, работнікаў і такой-жа інтэлігенцы. Маскоўскія бальшавікі разагналі гэны Конгрэс, бо ён быў арганізаваны без паразуменьня з Масквою. Трэба аддаць справядлівасьць беларускім камуністым, што нягледзячы на сваю паслухнянасьць Маскве, яны дагэтуль ня прызналі „кулацкасьці“ гэнага Конгрэсу.

Гэтымі забаронамі справа не канчаецца, бо чытаем яшчэ:

„Што азначае цяпер ізноў выцягнуць на сьвет (артыкулы Т. Глыбоцкага, З. Жылуновіча, М. Зарэцкага ў „Сав. Беларусі“) зашарпаную, даўно выкрытую марксызмам і ленінізмам тэорыю аб „самабытнасьці“, згодна якой наша сучасная социялістычная беларуская культура, літаратура й мастацтва павінны карыстацца буржуазнай і навет фэодальнай старавечнасьцяй, разьвівацца на кулацкіх „Апраметных“, на легендах і казках часоў Афросіньнеў Полацкіх і Клімэнтаў Смаляцічаў? Якой клясе патрэбны такі зьмест лёзунгу аб самабытнасьці?“.

Рэч нячуваная ў гісторыі! Тут маем ясны й станаўкі забарон Беларусам вывучаць гісторыю і наагул веду аб сваім народзе, каб гэтым давесьці асобнасьць, апрычонасьць, самабытнасьць гэтага народу. Беларусы павінны здаволіцца тым, што самабытнасьць іхняга народу „прызнаў марксызм і ленінізм“. Гэты забарон робіцца ў той час, калі ў тым-жа СССР Маскалём ня толькі ня робіцца ніякай перашкоды вывучаць усебакова свой народ, але адначасна прысабечаваць пры помачы фальшаваньня навукі гісторыю беларускага народу, навет прысабечаваць часьці самога беларускага народу, навет напару не прызнаваць апрычонага быцьця нашага народу, яго самабытнасьці. Вось там дык не забавязуе прызнаньне марксызму й ленінізму. Ціж ня маем тут розныя часьці суцэльнага маскоўскага фронту? Адныя маняць, а другія забараняюць зьбіваць гэную ману.

І яшчэ маем:

„Для чаго і ў чыіх інтарэсах цяперака ізноў узьнімаць пытаньне аб „орыентацыі“, аб „Усходзе“ й „Заходзе“? Адкуль дзьме вецер нездаваленьня ўсім „маскоўскім“, „агульна-саюзным“? і г. д. і г. д.“.

Забараніўшы навуку аб собскім народзе, гэтта Маскалі забараняюць Беларусам разглядаць сваё палітычнае і іншае палажэньне; ня сьмеюць Беларусы такжа быць нездаволенымі маскоўскім.

Просьле ўсіх гэтых забаронаў, прыходзе адна, найагульнейшая—Беларусам проста забараняюць думаць, бо „Па ўсіх пытаньнех, як па радзе іншых аналёгічных, ёсьць вычарпальныя пастановы й устаноўкі зьездаў і іншых кіруючых партворганаў КП(б)Б, здавалася-б абавязуючых усіх сяброў КП(б)Б, І тым ня менш, асобныя сябры нашай партыі лічаць сабе магчымым ізноў і ізноў узьнімаць і войстра ставіць гэтыя пытаньні. Далёкі-ж адыход такіх сяброў ад партыі!“.

Запраўды, можна было абмежыцца адным гэтым забаронам, бо „хто сьпіць, той не грашыць“. Калі Беларусы перастануць наагул думаць, дык яны тады не пачнуць дасьледаваць свае гісторыі і ня будуць рупіцца аб палажэньню свайго народу.

Усе царквы маюць свае догматы, змушаючы вернікаў прызнаваць іх пад страхам адлучэньня, але побач із догматамі ё яшчэ філёзофія аб тых-жа пытаньнех; а тут—думаць ня сьмей!

А хто-ж будзе гатаваць гэныя пастановы на зьездах, калі ня будуць думаць?—Масква, ведама, апрацуе й прышле іх, а Беларусы павінны толькі паслухмяна прагаласаваць і выпаўняць.

„Ісьцінна-рускі“ ворган гэтак далей страша камуністычнаю масу:

„Небясьпека беларускага нацыяналізму ё наўперад у тым, што ўнутры краю ён мае ладную базу на вёсцы ў васобе ўзмацнелага за гады НЭП-у беларускага кулака, а ў месьце шавіністычную верхавіну галоўна старой беларускай інтэлігенцыі, частку б.ураднікаў, б. і цяперашніх гандляроў і собсьнікаў дамоў Беларусаў. Небясьпека беларускага нацыяналізму шмат разоў узрастае і ў сувязі з тым, што яго пляны й дзейнасьць поўнасьцю ўвязваюцца з плянамі й дзейнасьцяй нацыянал-фашызму ў Зах. Беларусі... Небясьпека беларускага шавінізму і нацыянал-дэмократызму ё так сама і ў тым, што ў сувязі з абвастрэньням клясавай барацьбы ў нашай рэспубліцы, ён ня толькі абараняецца проці социялістычнага наступленьня, але, як мы бачылі, станоўка наступае“.

І далей пастрашае:

„Вось чаму... мы павінны асноўны агонь скіраваць на беларускі наступальны шовінізм і нацыянал-дэмократызм.

„Мы павінны мобілізаваць вакол пытаньнеў узрастаючай небясьпечнасьці ўсіх відаў нацыяналізму й шавінізму, асабліва на даным этапе—беларускага, як самога небясьпечнага, грамадзкую ўвагу шырокіх партыйных і работніцкіх масаў“.

„У той-жа час мы павінны весьці бязьлітаснную барацьбу і *няспынiяцца перад ізоляцыяй* (турмой—Рэд., падчыркнена Рэд. „Н.“) тых элемэнтаў сярод нашых кадраў (камуністых—*Рэд.*), каторыя генэральную лінію нашай партыі скажаюць у інтарэсах варожых нам клясаў“.

Ціж просьле ўсяго гэтага ня ясна, што маскоўскі камунізм нічога ня мае супольнага з прогрэсам; гэта дэспотызм у найгоршай яго хворме, дэспотызм маскоўскіх цароў, гэта мангольскае адрыгненьне Чынгіс-ханава злучанае зь цяперашнім, маскоўскім шовінізмам.

*Давідовіч-Горадзенскі.*

*Браты Беларусы, пашырайце сваю беларускаю газэту „НАРОД“!*

## Урадовае выданьне „Lemantara“ Станіслава Любіч Маеўскага.

Надовечы я дастаў беларускі „Lemantar“ Stanislawa Lubicz-Majeŭskaha, Lwoŭ, nakładam Dziaržaŭnaho Wydawiectwa szkołnych kniżak“, прысланы мне ягоным аўтарам. „Лемантар“ надрукаваны лацініцай, што згаджалася-б навет із зычэньнямі беларускімі, калі-б ужываць яго ў тых школах, гдзе большасьць складаюць дзеці беларуска-каталіцкія і бацькі іхнія дамагаюцца, каб вучылі іх лацініцай. Як ведама, агульна-беларускім правапісам прызнана Беларусамі кірыліца, але й лацініца зусім не адкінена, бо прызнана патрэбным яе ўжываць усюды там, дзе гэтага дамагаецца насяленьне або дзе гэта вымагаецца практычнымі патрэбамі.

„Lemantar“ дыр. Стан. Любіч Маеўскага я меў магчымасьць прачытаць у 1927 г. ў рукапісе. Разгарнуўшы цяпер лемантар надрукаваны, я, прызнаюся, яго не пазнаў. Гэтулькі ў ім сталася зьменаў! У гэным (рукапісным) успаміналіся беларускія рэкі, месты, адным словам дзяцё чулася-б у сябе дома; у гэтым (друкаваным) яго хочуць зацікавіць шырокімі вуліцамі м. Варшавы. У надрукаваным лемантары ня зусім правільна прадстаўлена сваяцтва паміж Беларусамі і іхнімі суседзьмі. На бал. 63 лемантара чытаем, што „Mowa biełaruskaja padobnaja da mowy polskaj“. Але ціж толькі да мовы польскай? аднолькава падобная і да ўсіх іншых славянскіх моваў, а калі падобнасьць разумець шырэй, дык будзе „падобная“ такжа да мовы нямецкай, францускай і інш. Відавочна мелася наўвеце дапяць таго, каб беларускае дзяцё падумала, што ягоная мова *найпадабнейшая* да мовы польскае, а гэта няпраўда. Гэтую і ёй падобную няпраўду беларускае шасьці-сямі годняе дзяцё даведаецца зь лемантара ў першы год свайга быцьця ў школе, а ад вучыцеля Паляка пачуе яе бяссумлеву ў першыя дні свайга быцьця тамака. Пачуўшы гэта, дзеці мусяць або паверыць вучыцелю, або сваім бацьком, родным і блізкім. Мы пэўны, што беларускае дзяцё стане па баку сваіх родных і гэтым абароне сваю душу ад няволі. Але ня верачы вучыцелю ў вадным, не паверыць яму і ў іншым, навет часта не захоча зразумець вучыцеля. Ці ня гэта ёсьць аднэй із прычынаў, што, нягледзячы на сваю так хваленаю Палякамі здольнасьць і кемнасьць, беларускія дзеці так блага вучацца ў польскіх школах? Знаходзім у лемантары яшчэ, што „Niekali predki palakoŭ, biełarusaŭ i maskaloŭ mieli adnu mowu supolnuju“. Але-ж ня толькі прэдкі гэтых трох народаў, але й шмат іншых.

Адгадку прычыны гэтых зьменаў, зробленых Ст. Любіч-Маеўскім у сваім лемантары, знаходзім у надрукаваным асобнай адбіткай лісьце паважанага аўтара да „Państwowego Wydawnictwa Książek Szkolnych we Lwowie“, дзе ён піша, што зрабіў зьмены „на зычэньне Выдавецтва“.

Але аказуецца, што ня толькі аўтар рабіў зьмены на зычэньне Выдавецтва. У тым-жа лісьце чытаем: „хтось (у Выдавецтве—*Я. С.*) без мае волі й ведзі парабіў у вапошнім ужо рукапісе сьцяг зьменаў, перарабляючы тэкст альбо выдумляючы із собскае галавы“. Просьле гэтае заявы трудна навет разабрацца, дзе віна аўтара, хоць і прынуканага гаспадарсьцьвенага ўрадніка (Ст. Любіч-Маеўскі ёсьць дырэктарам польскае, урадовае гімназыі ў Новым Месьце на Памор'ю), а дзе віна Гаспадарсьцьвенага Выдавецтва.

Але вышменаваныя заганы выглядаюць драбязой у прыраўнаньню зь іншымі запраўды вельмі вялікімі заганамі.

Як я вышэй заценіў, такой бяды, што лемантар надрукаваны лацініцай. Але вельмі нягодна, што ён надрукаваны *польскай*, а не беларускай лацініцай. Гэта значыцца, што беларускія літары č, š, ž заменены ў ім польскімі cz, sz, ż. Я ня буду даводзіць усёй непрактычнасьці й ненавуковасьці гэтае замены.

Гэтым чыста нутрана-нацыянальная справа, якой ё тая ці іншая абэцэда, у дадзеным прыпадку нарушана польскай уладаю, каторая з палёвізацыйвымі мэтамі імкнецца накінуць сваю, чужую нам, абэцэду. Гэткага жаданьня польскае ўлады ня могуць Беларусы разглядаць начай, як у свой час разглядалі Ліцьвіны накіданьне ім абэцэды маскоўскім урадам. Гэтак Беларусы павінны былі-б зрабіць навет тады, калі-б беларуская абэцэда была горшая за польскую, але запраўды ёсьць наадварот.

А з боку практычнага гледзячы, трэба заценіць, што вучэньне ў школах на лемантары Ст. Любіч-Маеўскага прывяло-б да таго, што дзеці, скончыўшы школу, не маглі-б чытаць пабеларуску.

Ня лішнім можа будзе адценіць, што ў 1927 г. у рукапісе я бачыў гэты лемантар напісаны беларускай абэцэдаю—з č, š, ž, і v.

Але гэтым яшчэ не канчаюцца заганы „Lemantara“. Зь лісту аўтара да выдавецтва даведаваемся, што апошняе ня прыслала аўтару карэктуры лемантара. „Адчыняю—піша аўтар—і тут-жа на тытульнай балонцы бачу ажно тры абмылы друкарскія ў тых колькі словах, што тамака ё.

„Не кажу аб тым, што далей, бо ведама, што дзе ані складальнік ані карэктар зусім ня знаюць мовы, а аўтар ня ёсьць мастаком красапісу, рэзультаты ня могуць быць харошыя“.

Гэтак піша аўтар, глянуўшы адно на тытульную балонку, але я, прачытаўшы ўвесь лемантар, інакш думаю; мне здаецца, што корэктуры не рабіў навет нязналы мовы карэктар. Гэт'кае мноства ў лемантары друкарскіх абмылаў і абмылак, бо цэлыя сотні! Ё ня мала таковых абмылаў, што не даюць магчымасьці чытаць. Прыкладам: Z Jarmatajem (замест—Jarmałajem, бал. 41), žlez (зам.—źlez, 69), paobał (зам.—paabapał, бал. 72), *najnaj*lepszaje (76), Rukaj (зам.—Rukoj, 96), Tamakoj (зам.—Tamaka, 94) і іншыя.

Да карэктарскага недагляду трэба аднесьці й такія напісаньні, як—*i*ch побач із j*i*ch, ba*i*szsia побач із baj*i*szsia, *i*skra побач із j*i*skra і пад.

Ё шмат такіх абмылаў, аб каторых трудна сказаць із чые віны—аўтара ці выдавецтва—яны ўзьніклі. Прыкладам трудна дапусьціць, каб аўтар ад асабовага займя 3-яе асобы жан. роду тварыў вінавальны склон „janu“ замест яе. Выдавецтва само ўставіла (даведаваемся аб гэтым з аўтарскага лісту да выдавецтва) на некаторых мясцох зусім незразумелыя выражэньні. Прыкладам: айсу—сару 'na polu; як ведама, „цэп“ у беларускай мове азначае прыладу для малацьбы, а тымчасам гэта надрукавана пад абразком, дзе ходзяць па полю авечкі, але цапоў няма.

Ё ня мала маскалізмаў і полёнізмаў у словах і выражэньнех.

---

Ул. Ст. РЭЙМОНТ.

# АБАРОНА ЗЯМЛІ

(Глянь № 3 (23) „Народу“).

— Мы прыйшлі да вас ад усяго сяла—казаў ён голасна й выразьліва — прасіць вас, каб вы ня куплялі Падлесься...

— Але! Няўжо-ж што! Гэтага! — пацьвярдзілі за ім, стукаючы кіямі.

— Тыя зразу ашалапуцелі.

— Што ён кажа? Чаго хоча? Не разумеем! балбаталі вушом сваім ня верачы.

Дык ім Рох другім наваротам панямецку сказаў, а ледзь скончыў, Мацей крыкнуў задзірыста:

— І каб вас чорт узяў ад нас!

Немцы як га скочылі, бы кропам апараныя, гам узьняўся, круцячыся й гяргечучы, яны так зхаваліся, што ўжо не адзін ізь іх із кулакамі парываўся да мужыкоў і пастрашаў, але тыя стаялі, як мур, палячы срогімі вачыма, адно ў іх рукі дрыжэлі а зубы скрыгаталі.

— Ці вы ўсе падурнелі? — крычэў стары, падыймаючы рукі. — Забараняеце нам купляць зямлю! Чаму? Якім правам?

Ізноў яму Рох усё вылажыў супакойне, шырака і як належыцца, але Немец, пачырванеўшы ад злосьці, крыкнуў:

— Зямля таго, хто за яе плаце!

— Гэтак выглядае павашаму, але панашаму начай, што павінна быць таго, каму патрэбная! — сказаў важна.

— Якім спосабам, дарма можа, паразбойніцку?— сьміяўся паругаючыся.

— За гэтыя дзесяць палцаў, вялікая плата!— адказаў так сама Рох.

— Дурная гутарка! Што тут будзем час траціць на сьмехі, Падлесьсе мы купілі, яно вашае, а каму гэта не падабаецца, няхай ідзе з Богам і абмінае нас здалеку. Ну, чаго яшчэ чакаеце?..

— Чаго? Каб вам сказаць: вон із нашае зямлі!—крыкнуў Рыгор.

— Выбірайцеся самі, пакуль вас гнаць не пачнём.

— Пакуль яшчэ просім пасуседзку! — крычэлі другія.

— Пастрашаеце. У суд падамо! Знайдзем на вас права, не адседзілі яшчэ за лес, дык вам дададуць і разам адробіце! — насьміхаўся стары, але ўжо ажно тросься ад злосьці, а й іншыя ледзь узьдзержаваліся.

— Вашыўцы праклятыя!

— Разбойнікі! Сабакі сьмярдзючыя! — крычэлі пасвойму, ціснучыся ў кучы, бы прытаптаныя гадзіны.

— Ціха, халеры, калі народ да вас гамоне!— вылаіўся Мацей, але яго не збаяліся, крычачы ўсё галасьней і цэлай кучай прысовуючыся.

Рох, баючыся бітвы, азіраў мужыкоў, прыцішаваў і супакояваў іх, але ад яго вырываліся, крычачы адзін праз аднаго.

— Загрэй каторы ў лоб першага з краю.

— Ці-ж папусьцімся, хлопцы? з усяго народу зьдзекуюцца!

— І на сваім не паставім? Крычэлі іншыя — заахвочуючыся й ціснучыся ўсё бліжэй і гразьней, ажно Мацей адхінуў Роха на бок і высунуўся да Немцаў, бы воўк, бліскаючы зубамі.

— Слухайце, Немцы!—зароў, выцягаючы кулакі.— Мы гамонім з вамі палюдзку, пасьціве, а вы пастрашаеце судом і зьдзекуецеся з нас! Добра, але цяпер заграем із вамі начай! Ня хочаце згоды, дык цяпер вам загадзя наказуем перад Богам і людзьмі, як пад прысягай, што на Падлесьсю ня ўседзіце! Мы прыйшлі да вас ізь мірам, а вы хочаце вайны! Добра, калі вайна, дык вайна! Маеце за сабой суды, маеце ўрады, маеце грошы, а мы адно гэтыя голыя кулакі... Пабачым, чый верх будзе! А яшчэ вам дадам, каб помнелі... салома гарыць ад агню, але ён спале й мураванкі, зьністожа й збожжа, навет на пні... статак таксама здыхае на пасьбішчу... а жадны чалавек не ўцячэ ад ліхой прыгоды... Папомнеце, што я сказаў: вайна ўдзень і ўночы, і на кожным месцу...

— Вайна! Вайна! і так нам, Божа, памажы!— гукнулі разам.

Немцы скочылі да дручкоў, лежачых пад сьцяной, некалькіх вынесла стрэльбы, то за каменьне хапаліся, жанкі паднялі крык.

— Адно няхай каторы стрэле, дык усе вёскі сюды зьбягуцца.

— Застрэліш аднаго, дык іншыя цябе кіямі заб'юць, як шалёнага сабаку.

— Не пачынайце, Немцы, бо з мужыкамі ня вытрываеце.

— А вашага мяса й галодны сабака не зачэпе.

— Зачапі толькі, памаўза, зачапі, пастрашалі адважна й вызываюча.

Стаялі ўжо блізка, вачыма адно мераючы адны адных, пераступаючы з нагі на нагу, стукаючы кіямі і крычачы заўзята, так што лаянкі й пастрашаньні лёталі над галавамі, бы каменьне, ужо выцягаваліся кулакі і не адзін ажно дрыжэў за злосьці, калі Рох абхапіў паглядам сваіх і адвёў назад, мужыкі хоцькі-ня-хоцькі адвярнуліся паўбокам і асьцярожне, гледзячы заходаў, адыходзілі, яшчэ балей лаючыся.

— Аставайцеся здаровы, сьвіныя морды!

— І чакайце пакуль вам чырвоны пятух запяе!

— Прыйдзем паскакаць із вашымі паненкамі!

Ажно іх Рох мусіў усьцішаваць, так разьюшыліся.

Сутаняла, сонца зайшло, сьцюдзёны вецер павяваў збожжам, што кланілася, звонячы калосьсям, травы рабіліся вогкімі ад сівых росаў, граньне на дудках і дзяцівыя крыкі несьліся зь вёскі, з балатоў чулася жабяе кваканьне і йшоў ужо па сьвеце ціхі й пахнючы вечар.

**Мужыкі варочаліся памалу, расьцягненыя сьвіт-**

Дзеля нястачы месца ў „Народзе“ гэтым я закончу свой разгляд Lemantara. Падробна яго разьбяру ў вадным із філёлёгічных часапісаў.

Канчаючы, мушу заценіць тутака, што калі-б навет у Lemantaru была беларуская абэцэда, дык мноства розных абмылаў у ім не далі-б магчымасьці ім карыстацца*). Падзеля менаваных мноства заганаў і некаторыя дадатнія бакі лемантара ня могуць мець значэньня, дык і разглядаць я іх ня буду.

**Phil. Dr. Я. Станкевіч.**

## Беларускі Гаспадарскі Зьвяз.

### Беларуская школа ў Вялікім Сяле, Маладэчанскага пав.

Беларускі Гаспадарскі Зьвяз падаў ў Віленскаю Кураторыю заяву на адкрыцьцё ў в. Вялікае Сяло пад Маладэчнам беларускай прыватнай школы пачаткавай.

### Бібліотэка ў Т-ве Беларускага Гаспадарскага Зьвязу.

Ужо некалькі месяцаў, як у Валожынскім Т-ве Белар. Гасп. Зьвязу закладзена беларуская бібліотэка. Належачыя да бібліотэкі ці, начай кажучы, пазычаючыя зь бібліотэкі кніжкі, павінны палажыць залогу 3 зал. Сябры Т-ва пазычаюць кнігі дарма, а не сябры плацяць 35 грашоў у месяц.

### Беларуская школа ў Валожыне.

Закладзеная летась Баларускім Гаспадарскім Зьвязам беларуская прыватная школа ў м. Валожыне (на прадмесьцю Валожына, у в. Панізьзе) сёлета пэратвараецца ў сямігодку, гэта значыцца ў пачаткавую школу із сяма адзьдзеламі. Дык трэба спадзявацца, што ў гэтаю сваю беларускую школу, аддадуць свае дзеці ня толькі ўсе Валожынцы, але ў старшыя адзьдзелы прывязуць бацькі свае дзеці і з дальшых вёскаў і валасьцеў. У школе будуць вучыць вельмі добра прыгатаваныя вучыцялі.

*) Проці друкаваньня беларускага лемантара польскай абэцэдаю была летась 24 жніўня надрукавана ў № 18 „Народу“ стацьця пад назовам „Дзе гэта чувана?“, але тады іншыя беларускія газэты нас не падзьдзержылі.

Рэдакцыя „Народу“.

### Павятовы лекар ня хоча агледзіць памяшчэньня пад беларускаю школу.

Дня 9 VII. сёл. пададзена Зьвязам у Савітарны Аддзел Стараства ў Маладэчне просьба агледзіць памяшчэньня пад школу Бел. Гасп. Зьвязу ў в. Вялікім Сяле, Маладэчанскага пав. і выдаць патрэбнае пасьведчаньне, але й дасюль яно не агледжана. Ведама, што гэтым выказуюцца несправядлівыя адносіны адміністрацыі да беларускае асьветы.

### Школа ў Замасьцянах.

На дамаганьне насяленьня Беларускі Гаспадарскі Зьвяз гэтымі днямі падаў Віленскаму Куратару просьбу аб выдачы канцэсыі на адкрыцьцё беларускай прыватнай пачаткавай школы ў в. Замасьцяны, Валожынскае вол. й пав.

### Ахвяры на беларускаю прыватнаю школу ў Валожыне,

забраныя пас. Я. Станкевічам на падпісны ліст N 1: Язэп Макрэцкі—20 зал., Аляксандар Міхальчык—20 зал., М. Касьцялкоўскі—10 зал., К. Крывіцкі—10 зал., А. Карніцкая—5 зал., К. Акуліч—5 зал., Вазьніцкі—5 зал., Рыхлік—5 зал., Жондца—5 зал., Камянецкі—5 зал., К. Юхневіч—5 з., Іван Урбановіч—5 зал., Э. Таўрагінскі—2 зл., Савіцкі—2 зл.

Разам: 104 зал. Усім, што далі ахвяры, шчырая падзяка.

## ЗЬЕЗД Т-ВА БЕЛАРУСКАЕ ШКОЛЫ.

9 ліпня сёлета быў у Вільні надзвычайны Зьезд Т-ва Беларускае Школы. Справаздача аб гэтым Зьезьдзе выдадзена самым Зьездам асобным лістком пад назовам „Справаздача з Агульнага Сходу Т-ва Беларускае Школы 9. VII. 1929 г.“; дык дзеля нястачы месца мы абмежымся тут адно заценкаю.

Як даўней беларускі народ і беларускі рух быў паміж двума непрыяцельмі (із заходу—Палякі, з усходу—Маскалі), так ён астаўся й цяпер, з тэй толькі розьніцаю, што цяперака апрача звычайных Маскалёў мы маем яшчэ маскоўскіх камуністых. Інтэрнацыяналістыя також імкнуцца зрабіць зь беларускага руху сьляпое сабе аружжа. З прычыны сваіх гэтых імкненьнеў яны проці запраўднай беларускай культуры. Дзеля таго, здабыўшы ладныя ўплывы ў Т-ве Белар. Школы, яны сьвядома пайшлі да ліквідаваньня Т-ва ўладаю, вядучы ў ім дэмонстрацыйна палітычную дзейнасьць. Але, з другога боку, яны не хацелі браць на сябе адказнасьці за закрыцьцё Т-ва, дык усю віну звалявалі на беларускіх патрыётаў, называючы іх фашыстымі і інш. Дзеля таго, што пры благіх адносінах польскай улады да белар. культурнай працы здабыць у Т-ве большасьць, каб гэт'кім парадкам не дапусьціць да правакаваньня яго інтэрнацыяналістымі, было немагчыма, Зьезд складзены вылучна зь беларускіх патрыётаў за выняткам двух чал., выбраў у Галоўную Управу вылучна і ўсіх тых, што былі выбраны раней на зьезьдзе Т-ва Школы, скліканым інтэрнацыяналістымі; іншымі словамі Зьезд выбраў у Галоўную Ўправу Т-ва павадыроў інтэрнацыяналізму ў нас. Паступаючы так белар. патрыёты з аднаго боку зьнялі із сябе адказнасьць за дальшую долю Т-ва, а, з другога боку, паставілі інтэрнацыяналістых перад неабходнасьцяй—або заняцца белар. культурнай працаю і тым захаваць Т-ва або ўжо зусім яўнаісьці да ліквідаваньня Т-ва і гэтым чыста выдаць сябе перад беларускімі масамі. Зьезд ня мог начай паступіць, як паступіў.

*Пр.*

## Полёнізацыя беларускіх геаграфічных назоваў.

Палякі з усіх бакоў імкнуцца спалячыць Заходняю Беларусь. У вапошнім часе маем дзьве полёнізацыйныя навіны—Lemantar Стан. Любіч-Маеўскага, надрукаваны польскім урадам польскай абэцэдаю, і комісыі дзеля „паправы“ геаграфічных назоваў пры вайводзкіх урадах у Заход. Беларусі.

Мэта гэтых комісыеў ясная—гэта, зьмяняючы беларускія назовы на польскія, прыдаць польскі выгляд нашаму краю.

кі павявалі, бы крыльле; ішлі шумна, абярняся задзержуючыся, хтось ужо пяяў, ажно ў барох рэха адбівалася, іншыя сьвісталі з уцехі, то гамонячы, абыймалі гарачымі паглядамі падлескія землі.

— Землі лёгка падзельныя! — сказаў стары Клуб.

— А няўжо-ж, гаспадаркі можна было-б выразаць, бы плястры мёду, адна ў вадну, і кожная ізь сенажацяй і пасьбішчам.

— Абы толькі Немцы ўступілі! — уздыхнуў староста.

— Не бядуйце, ужо мы пастараемся, што ўступяць—упэўняў Мацей.

— Я ўзяў-бы гэтаю зямлю з краю, ля дарогі—шапнуў Прычка Адам.

— А мне падабаецца пасярэдзіне, тая з крыжам—сказаў іншы дзяцюк.

— А я-б хацеў тую, што ад Волі.

— Вось каб так дастаць на гародах па хвалі-варку!

— Які разумнік, найлепшай хацеў-бы!

— Стане ўсім па дзялянцы — супакояваў Рыгор, бо ўжо пачалі былі спрачацца.

— Калі пан згодзіцца й аддасьць вам Падлесьсе, дык не малая праца вас жджэ — адазваўся Рох.

— Здолеем! здолеем ўсё чыста — крычэлі радасна.

— Ого! ня страшная праца на сваім!

— Навет усёй панскай зямлі далі-б раду.

— Хай адно дадуць, дык абачыце.

— Чалавек-бы ўрос у зямлю, бы дзерава, і няхай хто паспрабуе яго вырваць!

Гутарылі паміж сабой, што раз барджджэй ідучы, бо ўжо ад вёскі відаць была чарада жанок, ідучых на пярэймы.

* * *

Было сьвята. Ля касьцёла стаяла мноства народу. Раптам у канцы сяла, быццам на мосьце ля млына, затарахкалі войстра вазы і пыл падняўся ажно вышэй дзераваў.

— Якіясь спозьненыя — шапнуў Пятрусь Ганнулі.

— Сьвечкі здыхаты будуць гасіць — дадаў хтось.

Іншыя пачалі перахінацца пераз мур і цікава паглядаць на дарогу, ля ставу.

Зараз сярод сабачага брэху паказаўся цэлы сьцяг вялізарных хурманкаў із белымі будамі.

— Гэта Немцы! Немцы з Падлесься! — Крыкнуў хтось.

І запраўды былі яны.

Ехала колькінаццаць калёсаў, запрэжаных здаравеннымі коньмі; пад палатнянымі будамі відаць былі ўсялякія хатнія прылады ды сядзелі жанкі й дзеці, а рыжыя, таўстыя Немцы зь піпкамі ў зубах ішлі пехатой. Вялікія сабакі беглі побач, адбрэхуючыся й агрызаючыся ліпецкім, што іх уядалі.

Народ кінуўся глядзець на іх, а шмат хто пералазіў плот, каб паглядзець зблізку.

Немцы праяжджалі ступой, ледзь праціскаючыся паміж густа пастаўленых вазоў і конеў, але жадны ні зь кім не паздароўкаўся. Адно вочы ў іх гарэлі і барады трэсьліся, быццам за злосьці. Пагля-далі на народ горда, бы тыя разбойнікі.

— Кабылія сыны!

— Сьвіныя морды!

— Рыжыя сабакі!

Лаянка пасыпалася, бы каменьне.

— А што, Немцы, на чыім станула?—крыкнуў да іх Мацей.

— Хто каго ўходаў?

— Баіцеся мужыцкага кулака, што?

— Пажджэце, сягодня сьвята, пагуляем у карчме!

— Не адзываліся, адно паганялі коні, вельмі сьпяшаючыся.

— Памалей, Нямчуры, бо нагавіцы пагубляеце.

Якісь малец пусьціў у іх камянём, а другія пачалі цэглы ірваць, але ўпару іх зьдзержылі.

Не чапайце, хлопцы, няхай адыйдзе гэная зараза.

— А каб іх хвароба.

А адна зь ліпецкіх выцягнула кулакі і закрычэла за імі:

— Каб вас выгубілі што да аднага, як сабакі шалёныя...

Пераехалі напасьледак, адно зь ценеў і пылу чуўся слабеючы брэх і тарахканьне калясьнікоў.

Тады такая радасьць апанавала ліпецкіх, што ўжо немагчыма было брацца да малітвы.

— Ім мусіць нашыя кажухі сьмярдзелі — засьміяўся хтось, а Рыгор, войтаў брат, сказаў быццам заклапачоны:

— За далікатны народ на мужыцкіх суседзеў, бо няхай адно каторы дастане поўху, як зараз на зямлю валіцца...

— Ці хто зь імі пабіўся?—пытаўся зацікаўлены пан.

— Даба-ж каб пабіўся, Мацей так толькі да аднаго дакрануўся затое, што яму не адказаў на прывітаньне, дык той крывёй абліўся і траха душой не загавеў.

— Чыста мяккі народ, на пагляд мужчыны, як дубы, а спусьціш кулак, дык быццам у пярыну лучыў—аб'ясьняў сьціха Мацей.

— І ня шчасьціла ім на Падлесьсю. Каровы ў іх, здэцца, паздыхалі.

— Праўда, не вялі за сабой ані воднай.

— Якуб мог-бы сказаць! — вырвалася аднаму з малцаў, але Клуб крыкнуў войстра:

— Дурны, як бот! На ганячку паздыхалі, ведама...

Ажно пакорчыліся з тоенай радасьці, але з асьцярожнасьці ніхто ўжо не адазваўся аб тым, чаму Немцы пакінулі Падлесьсе...

(Канец).

